Горецкий
# ВЫБОР
Общественная газета
№3 (59)
Февраль 2009г.

# "У нас нет точной информации..."



***10 февраля в представительстве Еврокомиссии в Минске прошел первый день круглого стола «Политика Европейского Союза и Беларуси в области окружающей среды: делимся опытом». Среди широкого спектра вопросов, связанных в основном с сотрудничеством Беларуси и Евросоюза, были заявлены доклад Минэнерго «Стратегия Беларуси по развитию атомной энергетики и экологическая безопасность» и выступление Юрия Воронежцева, ученого, занимающего антиядерную позицию. Этот пункт круглого стола был назван спикером, консультантом Департамента Минэнерго по ядерной энергетике Михаилом Пигулевским, первой открытой дискуссией на тему ядерной энергетики в Беларуси. Предлагаем читателям отрывки из прозвучавшего в ходе обсуждения.***

«Островецкая площадка названа государственной комиссией приоритетной, однако это не значит, что она будет окончательно выбрана» - заявил **Михаил Пигулевский.** Он сослался на действующий Закон об использовании атомной энергии, в соответствии с которым, решение о размещении АЭС принимает глава государства. Действительно, А.Лукашенко еще не подписал Указа о выборе площадки. Однако дальнейшее изложение ситуации, связанной с выбором площадки, продемонстрировало отсутствие у Минэнерго основного заказчика и координатора данного проекта.

«Окончательное решение о выборе площадки для АЭС, - сообщил Пигулевский, - будет принято главой государства после процедуры обсуждения... Документ будет готов к концу 2009 года. Могу сказать, что на сегодняшний день у нас большой выбор организаций, которые хотят выполнить работу по подготовке данного документа. Однако у нас нет точной информации, когда Президент подпишет Указ».Однако, как сообщил спикер, работы уже ведутся полным ходом, так как «у нас слишком мало времени до 2016 года, когда должен заработать первый энергоблок».

Противоположную точку зрения на атомную энергетику представил второй докладчик, **Юрий Воронежцев.** Он опроверг «идеи ядерного ренессанса», представив статистику по строящимся АЭС в мире.

Докладчик коснулся вопросов некомпенсированных рисков атомной энергетики, связанных с нормальным безаварийным функционированием АЭС. Были названы радиоактивные газы, выделяемые в атмосферу станциями и суммарные дозы облучения, которые получат жители Беларуси с началом работы новой АЭС. По мнению эксперта, они с учетом чернобыльских доз представляют опасность для здоровья нации.

Проблемой ядерной энергетики, не решенной нигде в мире, Юрий Воронежцев назвал проблему ядерных отходов. Временное хранилище для высокорадиоактивного отработанного топлива будет находиться на территории станции. Оно дает дополнительное тепловое и радиационное загрязнение территории.

Остались без ответа вопросы о том, почему не были проведены консультации с общественностью на ранних стадиях проекта, как этого требует Орхусская конвенция, принятая в Беларуси в качестве закона.

*Татьяна Новикова*

## Улада не раіцца з людзьмі

Удзельнікі Горацкай антыядзернай групы і сябры Руху "За Свабоду" збіралі подпісы супраць АЭС у Мсціславе.

За дзве гадзіны актывісты абышлі некалькі сотняў кватэраў. Кожная наведаная сям'я атрымала брашуру "Міфалогія мірнага атаму", у якой прывдзеныя абгрунтаваныя адказы на галоўныя міфы пра ядзерную энергетыку.

– Ходзячы ад дзвярэй да дзвярэй, найчасцей можна было пачуць нараканні людзей, што ўлада зусім не раіцца па такім важным пытанні як будаўніцтва АЭС або яе размяшчэнне. Людзі кажуць: у нас нічога не пытаюць, – дзеліцца сваімі ўражаннямі лідэр групы Пётр Маланачкін.

У выніку акцыі ў скарбонку антыядзершчыкаў патрапіла яшчэ 140 подпісаў грамадзянаў, нязгодных з пабудовай АЭС у Беларусі.

WWW.HORKI.INFO

***Увага!***

**Дапаможнік для настаўніка**

Горацкая антыядэрная група прапануе бескаштоўна метадычныя дапаможнікі для настаўнікаў па арганізацыі і правядзенью ўрокаў, гутарак, клясных гадзінаў, прысьвечаных Дню памяці Чарнобыльскай ды іньшых радыяцыйных катастрофаў. Дапаможнік выдадзены ў Маскве Міжнароднай групай <Экозащита!>. У ім знойдуць патрэбныя матар'ялы ня толькі клясныя кіраўнікі ды выхаваўцы, але й пэдагогі-прадметнікі. Зьвяртацца трэба па тэлефоне 8 029 623 61 08 (Андрэй Юркоў), 8 029 545 89 83 (Эдуард Брокараў)

# 300 - "с сошкой", а 700 - "с ложкой"

В первом квартале этого года на могилевском заводе "Техноприбор" собираются сократить 130 работников. Руководство предприятия уже направило соответствующую заявку исполнительной власти. На Могилевщине это пока единственный случай, когда открыто заявляется о сокращении рабочих мест.

О намерении сократить работников "Техноприбора" напомнил на заседании Могилевского горисполкома председатель Комитета государственного контроля Зенон Ломать. "По каждой кандидатуре на увольнение должно быть твердое обоснование",— цитируют официальные источники предупреждение Ломатя. На заводе не комментируют предполагаемое сокращение. В отделе кадров сообщили, что приказа об этом пока не получали.

"Техноприбор" входит в государственное объединение "Белвтормет". Представитель администрации объединения так объясняет необходимость сокращения: **"У него 300 человек рабочих, а 700 человек — инженерно-технических работников.** Специалисты должны работать, а балласт, если он есть, — или найдите им работу и загрузите их, и если не нашли работу, пусть идут с миром".

В проблемах могилевского завода представитель администрации обвиняет руководство, которое, по его словам, не в состоянии управлять производством. На заводском складе скопилось продукции на 10 миллиардов рублей, сообщил он.

"Запасы были бы значительно больше, если бы "Белвтормет" не забрал половину продукции. И продает сейчас по всей стране. А сами они продали на 150 миллионов. Мы туда вложили 1,8 миллиарда рублей в оборотные средства. Однако они этими средствами воспользоваться не могут. За счет бывших долгов у них снимают все, арестовывают", — отметил представитель администрации.

В мае 2007 года сообщалось о выявлении госконтролем приписки на "Техноприборе". По результатам тогдашней проверки, руководство искажало статистику, чтобы завод привлекательно смотрелся для банков и имел доступ к кредитам. Тогда сообщалось, что кредиторская задолженность предприятия составила 40 миллиардов рублей. Банкам же завод был должен около 20 миллиардов рублей.

"Техноприбор" выпускает деревообрабатывающие станки, светотехнику, оборудование для пищевой промышленности, а также товары народного потребления.

# «Ленінскаму клічу" пагразілі пальцам

**Чавускі раённы суд не задаволіў пазоў рэдактара газэты "Вольны горад" Сяргея Няроўнага й заснавальніка выданьня Ўладзімера Кудраўцава супраць рэдакцыі газэты крычаўскага райвыканкаму "Ленінскі кліч". Журналісты недзяржаўнага выданьня намагаліся абароніць свае гонар, годнасьць і дзелавую рэпутацыю, а таксама спагнаць кампэнсацыю маральнай шкоды ў памеры 10 мільёнаў рублёў.**



*Кардынатар абласной суполкі Беларускай асацыяцыі журналістаў Генадзь Суднік (зьлева) вітае Сяргея Няроўнага падчас падвядзеньня вынікаў 2008-га года. Фота Ганны Ільіной*

Судовы працэс пачаўся яшчэ 28 сьнежня 2007 году. Нагодай для яго сталіся гумарэскі, якія публікавала крычаўская раёнка кожную суботу з - 2005 да 2007 году. Іх, як высьветліў суд, пісалі рэдактарка "Ленінскага клічу" **Тацяна Іўкіна**, яе намесьнік **Уладзімер Далецкі**, а таксама карэспандэнты выданьня **Аляксандар Гаўрыленка** ды **Анатоль Іваноў**.

У гумарэсках апісвалася дзейнасьць крычаўскіх апазыцыйных палітыкаў, грамадзкіх актывістаў ды журналістаў недзяржаўных выданьняў. Паводле лінгвістычнай экспэртызы, у пэрсанажах гумарэсак празь віды дзейнасьці, характарыстыкі, палітычныя прыхільнасьці пазнаюцца канкрэтныя асобы, хоць іх прозьвішчы й скажоныя да зьневажальных мянушак.

**Сяргей Няроўны** адразу ж пасьля судовага паседжаньня паведаміў, што судзьдзя **Алена Каралько** праігнаравала вынікі экспэртызы:

"Яна нічога пра экспэртызу не сказала. Суд не пазнаў у «Крывым» Няроўнага, а ў «Кучаравым» — Кудраўцава. Калі ведаць сытуацыю зь беларускімі судамі й з пракуратурай, вырак у прынцыпе заканамерны. Цяпер галоўнае, што мы павінны зрабіць у нашай газэце, дык напісаць пра гэты працэс. Для нас важна, што думаюць наконт гэтага крычаўскія чытачы, а ня чавускі суд".

Паводле Сяргея Няроўнага, судзьдзя папярэдзіла выдаўцоў "Ленінскага клічу" пра недапушчальнасьць падобных публікацыяў у будучыні. Што да вырaку, то спадар Няроўны кажа, што будзе яго абскарджваць у Магілёўскім абласным судзе.

*Паводле Радыё Свабода (Магілёў)*

## Камэнтар радактара

Больш за ўсё мяне тут уразіла фраза пра "недапушчальнасьць у будучыні". Ня надта моцны ў юрыспудэнцыі, але мяркую, што гэтым самым Высокі суд дэ-факта прызнаў-такі віну журналістаў "Клічу", перакрэсьліўшы ўласнае дэ-юрэ рашэньне.

Добра ведаючы Сяргея Няроўнага ды ягоную журналісцкую каманду, не сумляваюся, што адэкватна адказаць (ледзь не напісаў – "калегам", ды не – якія ж там журналісты!) супрацоўнікам з "ЛК" яны здолеюць нават у цяперашніх умовах. Гаворка тут аб іньшым. Маючы дастатковы досьвед чытаньня савецкіх газэт, міжволі навучыўся чытаць "паміж радкоў". Але на мой погляд, настае на Беларусі час, калі тым жа чынам трэба вучыцца чытаць амаль што любы афіцыез: рашэньні судоў, дакумэнты ўраду, падручнікі гісторыі...

Ну, ды - не прывыкаць. Вось толькі крыху шкада (а крыху дык зь іх і сьмешна) бывае чыноўнікаў, якіх вышэйшая улада зрабіла крайнімі ў гэтых гульнях. Маўляў, вось вам умовы, і хоць яны ня надта адпавядаюць Закону, але мы нічога ня ведаем – круцiцеся, як хочаце.

Вось і стваракоцца у канторах шматлікія адпіскі, поўныя недагаворак ды абцякаемых фразаў, а іх аўтары, ня маюць сьмеласьці адарваць вочы ад стала і паглядзець у твар тым, хто да іх зьвяртаецца. Цяжкавата ім, небаракам, так сядзець увесь дзень, апусьціўшы вочы. Пры гэтым, практыка паказвае, што атрымаўшыся паміж двух полымяў (Законам і Начальнікам) непакояцца гэтыя сталаначальнікі толькі пра адно – абы пранясло, абы не стаць крайнім. Бо калі што, калі прыпячэ – "здадуць" уласныя "босы", нібы шклатару, як здалі нядаўна вядомых "абаронцаў Закону" у Менскай вобласьці.

Крычаўскім жа калегам я шчыра зычу посьпехаў ў іх працы і пермогі Закона над чыноўнічымі "паняцьцямі".

*Эдуард БРОКАРАЎ*

ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР 3
№ 3 февраль 2009г.

# Магілёў адсвяткаваў гадавіну атрымання Магдэбурскага права

***Падчас урачыстай вечарыны, арганізаванай актывістамі Руху "За Свабоду" ушанаваныя лепшыя прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці.***

Урачыстая вечарына з нагоды 432-х угодкаў надання Магілёву Магдэбурскага права арганізавана актывістамі Руху "За Свабоду" ды іншымі прадстаўнікамі дэмакратычнай супольнасці.

Падчас святкавання ўшанаваныя лепшыя грамадскія дзеячы Магілёўшчыны. У намінацыі "Чалавек года" за кіраванне Магілёўскай абласной кааліцыяй дэмакратычных сіл, прынцыповасць і мужнасць у час выбарчай кампаніі 2008 года адзначаны Пётр Мігурскі.


Фота Ганны Ільіной

**У намінацыі "Вынік года" адзначана Горацкая антыядзерная група. Яе каардынатар Пётр Маланачкін (на здымку) ушанаваны за актыўную працу па недапушчэнню будаўніцтва АЭС на Кукшынаўскай пляцоўцы.**

"Выданнем года" прызнана газета "Вольны горад" (рэдактар Сяргей Няроўны, фота на стар.2) за барацьбу, прынцыповасць і адстойванне маральных каштоўнасцяў.

Званне "Змагар года" атрымаў Мікола Расюк за апантанае адстойванне правоў працоўных.

Усе намінанты атрымалі памятныя дыпломы з падзякамі, падпісаныя лідэрам Руху "За Свабоду" Аляксандрам Мілінкевічам, кіраўніком выканкама абласной асамблеі дэмакратычных сілаў Рыгорам Кастусёвым і кіраўніком ініцыятывы "Грамадзкі магістрат Магілёва" Аляксандрам Сілковым.

У бліжэйшы час плануецца таксама ўганараваць дыпломамі людзей, датычных да аднаўлення Магілёўскай ратушы ў намінацыі "Падзея года".

" У гэты дзень закладаецца традыцыя шанавання лепшых грамадзкіх дзеячоў Магілёўшчыны, а таксама абвяшчаецца пра заснаванне новай грамадсзкай ініцыятывы "Магілёўскі грамадскі магістрат", мэта якога " вяртанне нашага гораду да традыцый самакіравання, " кажа ўдзельнік імпрэзы, сябра Рады Руху "За Свабоду" Віталь Васількоў.

**Даведка**

28 студзеня 1577г. Магілёў, які да таго часу вырастаў у адзін з важных гарадоў Вялікага Княства Літоўскага, атрымаў ад караля Рэчы Паспалітай права на гарадзкое самакіраванне.

У выніку ўся ўлада ў горадзе перайшла да магістрату, у які ўваходзілі бурмістры, радцы, лаўнікі. Ачольваў магістрат войт, які да сярэдзіны XVII ст. прызначаўся каралём пажыццёва. Пасля магілёўцы дамагліся права самім выбіраць войта, а таксама ягонага намесніка (лентвойта), які кіраваў горадам у часе адсутнасці войта. Войт меў вялікія правы, яму падпарадкоўваліся ўсе месцічы. Магістрат абіраўся гараджанамі на двухгадовы тэрмін, прычым выбіраліся некалькі яго складаў, каб штогод улада пераходзіла да новага складу.

Пры магістраце існаваў і кантрольнадарачы орган з 12 асобаў, якія таксама выбіраліся гараджанамі. Магістрат займаўся фінансавымі, гаспадарчымі, судовымі ды іншымі гарадзкімі справамі.

Наданне Магдэбургскага права Магілёву прывяло да таго, што гараджане самі вырашалі ўсе праблемы гарадзкога жыцця і пазбавіліся свавольства асобных феадалаў і дзяржаўных чыноўнікаў.

Магілёўцы называлі гэтае права "правам хрысціянскім, ад Бога дадзеным".



**Во дают!**

## С зимбабвийского доллара убрали 12 нулей

Центробанк Зимбабве 2 февраля 2009 года провел очередную деноминацию, а также выпустил в обращение семь новых банкнот.

Как сообщает Lenta.ru со ссылкой на AFP, после деноминации 10 триллионов зимбабвийских долларов - купюра максимального номинала, имеющая хождение в стране - превратилась в десять долларов. Таким образом, с банкнот были убраны 12 нулей. По официальному курсу Центробанка Зимбабве один доллар США торговался на уровне четырех триллионов зимбабвийских долларов.

В свободное обращение были выпущены банкноты достоинством 1, 5, 10, 20, 50, 100 и 500 зимбабвийских долларов.

За последние полгода правительство и Центробанк Зимбабве проводят уже вторую деноминацию национальной валюты. В июле 2008 года с зимбабвийских банкнот были убраны 10 нулей. Правда, тогда в обращение не были выпущены новые купюры - центробанк вернул в обращение старые купюры достоинством 1, 5 и 10 зимбабвийских долларов.

16 января 2009 года правительство Зимбабве объявило о намерении ввести в обращение купюру в сто триллионов долларов. Теперь же, если купюра и будет напечатана, в обращение она будет введена позже. Из-за инфляции Центробанк Зимбабве регулярно добавляет дополнительные нули на выпускаемые купюры. В среднем инфляция в Зимбабве составляет около 230 миллионов процентов в год и является рекордной в мире.

# Нашы суседзі *Агляд матар'ялаў з Магілеўшчыны*

**Бабруйск**

## Крадуць па-буйнаму...

Узбуджаны некалькі крымінальных спраў на бабруйскіх службовых асобаў, падазраваных у крадзяжы грашовых сродкаў у буйных памерах.

Як паведамляе газета "Вечерний Бобруйск", у пракуратуры Ленінскага раёна расследуецца справа ў дачыненні дырэктара аднаго з прадпрыемстваў Бабруйска Л., 1948 г.н., які разам з дырэктарам мінскай фірмы, па папярэдняй змове, у перыяд з ліпеня па верасень 2007 года шляхам падману і злоўжыванні даверам завалодалі акцыямі 22 удзельнікаў прадпрыемства на суму 401.204.000 рублёў.

Генпракуратура распачала крымінальную справу ў дачыненні бабруйчаніна Д., 1970 г.н, што знаходзіцца ў міждзяржаўным вышуку, які, працуючы дырэктарам аднаго з прадпрыемстваў горада, у змове з іншымі службовымі асобамі ў лютым-сакавіку 2007 года здзейсніў крадзеж грашовых сродкаў у суме 90.600.000 рублёў.

УЎС Магілёўскага аблвыканкама вядзе следства па справе бухгалтара аднаго з бабруйскіх прадпрыемстваў Г., 1977 г.н. - яна, злоўжываючы службовымі паўнамоцтвамі, выкрала 3.117.900 рублёў.

Працуючы на кіруючай пасадзе, 54-гадовы Е. шляхам неабгрунтаванага атрымання заработнай платы на імя сваёй жонкі, якая фактычна не працавала, здзейсніў крадзеж грашовых сродкаў у памеры 40.611.070 рублёў і ў яго дачыненні ва ЎУС гарвыканкама ўзбуджана крымінальная справа.

**Клімавічы**

## Адзіноцтва пенсіянераў

Зараз на тэрыторыі Магілеўскай вобласці пражывае каля 290 тысяч пенсіянераў. Гэта вялікая лічба, бо пенсіянерам з'яўляецца кожны чацвёрты жыхар Магілеўшчыны. Насельніцтва вобласці, як і краіны таксама, імкліва старэе. Нездарма ўсё часцей ідзе гаворка пра неабходнасць перагляду пенсійнага ўзросту. Праблема ўзмацняецца тым, што на вёсцы становішча яшчэ больш катастрафічнае, тут жывуць пераважна старыя і адзінокія людзі.

Возьмем для прыкладу Мілаславіцкі сельсавет Клімавіцкага раёну. У межах сельсавету знаходзіцца 15 населеных пунктаў. У гэтых вёсках пражывае прыкладна 1500 чалавек, у тым ліку каля 500 пенсіянераў. Атрымліваецца, што гэта кожны трэці жыхар Міласлаўшчыны. Сярод іх 270 адзінока пражываючых і 62 проста адзінокіх людзей, у якіх не засталося ніякіх сваякоў. Нельга не адзначыць і тое, што дзесяць вёсак лічацца маланаселенымі, бо агульная колькасць іхніх жыхароў — 112 чалавек. У некаторых вёсачках жыве па тры-пяць чалавек. У Данілаўцы засталася адна жанчына, апошняя з насельнікаў гэтай мясцовасці. Цяжка прагназаваць будучыню, але хутчэй за ўсё становішча ў бліжэйшыя гады наўрад ці зменіцца да лепшага.

*Сяргей Аржанцаў*

**Бялынічы**

## Дык хто ж наведаў раён?

Напрыканцы студзеня Бялыніцкі раён наведаў новы старшыня Магілёўскага аблвыканкама Пётр Руднік. Паездка была азнаямляльная, гэта быў першы візіт кіраўніка вобласці ў наш рэгіён, таму асноўную ўвагу спадар Руднік надаў наведванню мясцовых вытворчых аб'ектаў. У Бялынічах старшыня аблвыканкама наведаў цэх па вытворчасці сыроў ААТ "Бабуліна крынка", у Цехціне – крухмальны завод і жывёлагадоўчы комплекс ААТ "Новая Друць".

Як звычайна, нашы кіраўнікі рыхтаваліся да візіту вялікага начальніка і на працягу некалькіх тыдняў (візіт старшыні аблвыканкама некалькі разоў пераносіўся) старанна наводзілі "паказуху". Напярэдадні такой важнай падзеі нават здолелі разагрэць і цалкам запусціць тэхналагічную лінію на модулі па вытворчасці крухмалу. Праўда, неўзабаве пасля візіту Пятра Рудніка, як толькі ўдарылі маразы, яна зноў зламалася. Ну а бруд з завода жанчыны пачалі вычышчаць задоўга да наведвання высокага госця. Тое самае адбывалася на жывёлагадоўчых комплексах у Цехціне і Машчаніцы, там нават у чаканні прыезду спадара Рудніка шмат для каго з працаўнікоў паадмянялі выхадныя. Любяць у нас пуціць пыл у вочы... Калі старшыня аблвыканкама сапраўды хоча даведацца пра рэальны стан падзей у рэгіёнах, раім яму прыязджаць без папярэджання.

Дарэчы, чамусьці мае шаноўныя калегі з раённай газеты "Зара над Друццю" свой артыкул аб візіце Пятра Рудніка назвалі "Губернатар наведаў Бялыніцкі раён". Наколькі я ведаю, Беларусь ужо хутка як сто гадоў не ўваходзіць у склад Расійскай імперыі і такой пасады, згодна Канстытуцыі, у нашай краіне проста неіснуе.

*Сяргей Семяновіч*

## За што прэмія?

Спецыяльная прэмія Бялыніцкага райвыканкама "Чалавек года – 2008" у намінацыі "Невытворчая дзейнасць" прысвоена дырэктару ДУА "Гімназія № 1 г. п. Бялынічы" Таццяне Балдушэўскай, якая ў мінулым годзе вызначылася тым, што актыўна адгаворвала бацькоў ад стварэння ў узначальваемай ёй установе адукацыі класаў з беларускай мовай навучання. Самае цікавае тое, што сама Таццяна Іванаўна з'яўляецца выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры.

Нагадаю, што на працягу 2008 года грамадзкія актывісты з Бялыніч Алег і Наталля Мяцеліцы неаднаразова звярталіся да кіраўніцтва Бялыніцкага РАНА і асабіста да дырэктара гімназіі № 1 Таццяны Балдушэўскай (у гімназіі навучаюцца дзеці Алега і Наталлі) з пісьмовымі просьбамі стварыць у гімназіі класы з беларускай мовай навучання. На ўсе звароты былі атрыманы адмоўныя адказы, у якіх кіраўніцтва РАНА і спадарыня Балдушэўская спасылаліся на эканамічную немэтазгоднасць стварэння класаў з беларускай мовай навучання, нягледзечы на тое, што дзяржава гарантуе права выбару мовы навучання і выхавання дзяцей.

У чэрвені 2008 года быў праведзены сход бацькоў вучняў 5 і 9 класаў гімназіі № 1 г. п. Бялынічы. На сходзе з палымяной прамовай выступіла дырэктар гімназіі № 1, настаўніца беларускай мовы і літаратуры Таццяна Балдушэўская. У сваім выступе Таццяна Іванаўна выказалася супраць стварэння класаў з беларускай мовай навучання ў сувязі з эканамічнай немэтазгоднасцю. Таксама яна адзначыла, што вучням, скончыўшым 9 класаў, хутка патрэбна працягваць далейшае навучанне ў сярэднеспецыяльных і вышэйшых установах адукацыі, а на іх плечы кладзецца цяжар чарговай школьнай рэформы (дарэчы, распачатай нашымі вельмі разумнымі чыноўнікамі ад адукацыі), што наогул беларуская мова не з'яўляецца асабліва важнай, таму ствараць беларускамоўныя класы непатрэбна.

Ва ўсіх навучальных установах г. п. Бялынічы (а іх наведвае асноўная колькасць вучняў школ Бялыніцкага раёна) мовай навучання вызначана руская.

Нагадаю, што 2009 год указам кіраўніка краіны вызначаны як "Год роднай зямлі". Пытанне толькі ў тым,што калі з дзяцінства выхоўваць манкуртаў, ці застанецца на роднай беларускай зямлі хоць адзін беларус праз некалькі дзесяцігоддзяў...

*Сяргей Семяновіч*

«ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР»
Общественная газета. № 3(59), февраль 2009г.
Издатель и главный редактор - ЭДУАРД БРОКАРЕВ. Brok61@yandex.ru Т. 545 89 83. Издание непериодическое, выходит по мере возможности. Тираж 299 экземпляров.
Редакция самостоятельно принимает решения о размещении бесплатной социальной рекламы.
Редакция использует материалы сайтов: svaboda.org/ milinkevich.org/ racyja.com/ naviny.by/ pbnf.org/ belsat.eu/ horki.info/ charter97.org/ belradio.fm/ belarda.org/